

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamajca, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 586 Лістапад 2011 г.
Год выданьня 62

## Шаноўныя чытачы!

Перад вамі лістападаўскі нумар газэты. Гэта дванаццаты нумар, які выпусьціла новая Рэдакцыя. Споўніўся год нашай працы па выданьню газэты. За гэты час мы набылі пэўны вопыт, нарабілі шмат памылак, як арфаграфічных, так і больш істотных, але і яны навучылі нас многаму. Нашы стараньні не былі марнымі, газэта набыла новых падпісчыкаў і аўтараў. Сардэчна дзякуем усім вам за падтрымку і дапамогу, спадзяемся, што і надалей мы застанемся добрымі сябрамі.

У лістападзе адбыліся важныя падзеі ў сучаснай гісторыі Беларусі, якія могуць аказаць негатыўны ўплыў на будучыню нашай Бацькаўшчыны. Падзеям у Беларусі мы надаем перавагу ў гэтым выпуску газэты. Асаблівую значнасьць у кантэксце гэтых падзеяў сёлета набыло сьвяткаваньне 91-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну, ушанаваньне гераічнага змаганьня слуцкіх паўстанцаў за вольную Беларусь, якое дае нам прыклад, як трэба бараніць сваю краіну.

У газэце вы знойдзеце шмат іншай цікавай інфармацыі пра беларускае жыцьцё ў замежжы і непасрэдна ў Амэрыцы, пра навіны ў галіне культуры.

Асабліва раім заглянуць у наш Каляндар памятных датаў, бо, менавіта , на сьнежань прыпадае некалькі значных юбілейных датаў, якія нельга абыйсьці увагаю: напрыклад, 60- годдзье БІНІМу.

Жадаем вам карысна правесьці час з нашай-вашай газэтаю ў руках. Нагадваем, што наступны сьнежаньскі нумар – перадсьвяточны. Дасылайце свае віншаваньні блізкім, сябрам, калегам і ім, напэўна, будзе прыемна прачытаць іх у газэце “Беларус” на роднай мове.

*Рэдакцыя*

# ДЗЕНЬ ГЕРОЯЎ БЕЛАРУСІ



# РАДА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ
## *ПРЭЗЫДЫЮМ*

Дарагія Суродзічы!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, вітаю вас зь вялікай падзеяй у жыцьці нашага народу – **Слуцкім Збройным Чынам**, ці, як яго называў Юрка Віцьбіч, Слуцкім Фронтам БНР.

Цытую далей Юрку Віцьбіча: “Меліся ў нас паўстаньні і больш колькасныя па ліку, як Вяліжскае, і ня горш арганізаваныя, як Гомельскае, і ня менш зацятыя, як Парэцкае, Барысаўскае, Івянецкае, Койданаўскае, Мірскае, Рагачоўскае, Панкоўска-Будаўскае, Бешанковіцкае і шмат шмат іншых. Аднак ні адно з гэтых паўстаньняў не выявіла ў такой ступені наш нацыянальны супраціў расейскім акупантам, як Слуцкае”.

Дык заклікаю ўсіх вас, дарагія суродзічы, адзначыць гэтую вялікую падзею. Адначасна заклікаю кожнага з Вас, у Беларусі і ў ва ўсіх беларускіх асяродках у сьвеце, ушанаваць памяць ня толькі герояў Случчыны, якія “першыя паўсталі й пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына”, але і ўсіх вам ведамых і няведамых змагароў за незалежнасьць Бацькаўшчыны і Вашую волю. Дзякуючы ім мы яшчэ існуем як нацыя, нягледзячы на шматлікія намаганьні нашых суседзяў, каб сьцерці з паверхні Зямлі незалежную дзяржаву Беларусь.

Жыве Беларусь!

*Івонка Сурвілла*
*Старшыня Рады*
*Беларускай Народнай Рэспублікі*
*Лістапад 2011 г.*

# Угодкі Слуцкага збройнага чыну ў Нью-Ёрку

Як і кожны год напрыканцы лістапада беларуская грамада ў Нью-Ёрку ладзіла ўрачыстую імпрэзу, прысьвечаную ўшанаваньню гераічнага змаганьня слуцкіх паўстанцаў. Сьвята адбылося 27 лістапада ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага на 401 Atlantic Ave. Ладзіў яго Бруклінскі аддзел БАЗА.

Раніцаю ў царкве прайшла Багаслужба, напрыканцы якой адбылася супольная малітва ў памяць слуцкіх змагароў. Урачыстую акадэмію ў грамадзкай залі вёў сябра Галоўнай управы БАЗА Юрась Зянковіч. Зьмястоўны рэфэрат пра гісторыю Слуцкага паўстаньня зрабіла новая сяброўка БАЗА Кася Бяспалава, выпускніца Йельскага унівэрсытэта. Яна не толькі цікава гаварыла, але і суправаджала свой аповяд паказам на экране дакумэнтальных кадраў, фотаздымкаў кіраўнікоў паўстаньня.

Вельмі ўзьнёсла і эмацыйна



прачытала Ганна Лукашык верш Якуба Коласа “Пасеклі наш край” .

Сяргей Пятровіч зачытаў прывітаньні ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы і ад Маскоўскага беларускага таварыства імя Скарыны.

Са сьвяточным віншаваньнем прысутных ад імя БАЗА выступіла старшыня Галоўнай управы Ганна Сурмач, яна падкрэсьліла, што менавіта эміграцыя паваеннага пакаленьня заклала штогадовую традыцыю адзначэньня ўгодкаў Слуцкага збройнага чыну. І гэтую традыцыю трэба працягваць новым эмігрантам. Сёньня гэта надзвычай важна, гэтым мы нагадваем беларускаму дыктатару пра здольнасьць беларусаў да змаганьня, што зьдзек над сабою яны не будуць трываць бясконца.

Пра гістарычную значнасьць падзеяў на Случчыне ў 1920 годзе прамаўляў сп. Зянон Пазьняк. Ён нагадаў пра тое, што было зроблена Беларускім Народным Фронтам дзеля ўшанаваньня памяці адважных случчакоў, як даводзілася ізноў і ізноў аднаўляць сьпілаваныя і пашкоджаныя крыжы, устаноўленыя ў памятных мясьцінах на месцах баёў паўстанцаў.

Сп. Расьціслаў Гарошка падзяліўся ўспамінамі, як сьвяткаваліся угодкі Слуцкага паўстаньня паваеннай беларускай эміграцыяй. Гэтае сьвята лічылася адным з асноўных у жыцьці беларускай дыяспары па цэлым сьвеце.




На завяршэньне быў паказаны дакумэнтальны фільм БЕЛСАТа пра Слуцкае паўстаньне.

Эмацыйны настрой ў залі стварала фотаэкспазыцыя, на якой былі паказаныя помнікі слуцкім паўстанцам, сярод іх самы першы, які паставілі беларускія ўцекачы з лягераў ДП яшчэ ў Нямеччыне. Экспазыцыя была падрыхтавана Валянцінаю Трыгубовіч. Яна таксама напісала кароткі і вельмі дакладны і зьмястоўны інфармацыйны ліст пра слуцкія падзеі, які быў раздадзены прысутным, асабліва зацікавілася ім моладзь.

Прысутныя выказалі падзяку за смачныя стравы, якія былі пададзеныя на сьвяточны абед. Іх падрыхтавалі руплівыя Шура Лістоўская і Віллолобос Вікторыя , а падавалі Ала Трапашка і Сьвятлана Фёдарава.

# У Беларусі адзначылі 91-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну

27 лістапада ў Слуцку адбыліся ўрачыстыя імпрэзы з нагоды 91-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну. Актывісты Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ, руху "Салідарнасьць", іншых дэмакратычных партый і рухаў, а таксама неабыякавыя да беларускай гісторыі людзі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі праехалі па месцах баёў слуцкіх паўстанцаў з войскамі чырвонай арміі.



# "Пагоня" над Парыжам

***Над магілай дзеяча беларускай дыяспары ў Францыі Ўладзімера Шыманца ў Сартрувілі прымацаваны нацыянальны герб Беларусі.***



Гарадок Сартрувіль – за некалькі кілямэтраў ад сталіцы Францыі, калі паглядзець на мапе – уверсе над Парыжам, на паўночным захадзе. Сям'я Шыманцоў пасялілася там у пачатку 50-х гадоў, і з таго часу беларуская прысутнасьць стала ў Сартрувілі прыкметнай.

Уладзімер Шыманец быў адным з найбольш актыўных дзеячоў беларускай дыяспары ў Францыі, доўгі час займаў пасаду міністра фінансаў ва ўрадзе БНР пры старшынстве Міколы Абрамчыка. Шыманец – аўтар марак БНР з выявай "Пагоні", мапай этнічнай Беларусі, партрэтамі прэзыдэнтаў БНР Крачэўскага і Захаркі.

Менавіта выяву "Пагоні" з той маркі ўвасобіў у сваім скульптурным творы сын Уладзімера, Лявон Шыманец. Выява "Пагоні" была ўрачыста прымацавана на надмагільлі Ўладзімера і Эвэліны Шыманцоў.

– Гэта вялікая падзея для нашай сям'і, – сказала па тэлефоне з Канады дачка Ўладзімера Шыманца, старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла.

– Гэта значная падзея для Сартрувілю, – адзначыла старшыня Асацыяцыі мастакоў Жызэль Жубрэль, якая ўзяла ўдзел у цырымоніі адкрыцьця выявы "Пагоні".

Пасьля ўрачыстасьці адбылася сяброўская вячэра ў доме Леаніда Шыманца і прагляд фільму "Уяўны Парыж" пра менскую мастачку Ірыну Котаву.

*Паводле Радыё Свабода*
*07.11.2011*



## Алесь Міхалевіч выступіў на слуханьнях Хэльсынскай камісіі ЗША

15 лістапада у Вашынгтоне прайшлі слуханьні Хэльсынскай камісіі ў справе Беларусі. Слуханьні засяродзіліся на тым, як ўплывае перасьлед апазыцыі ў Беларусі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у сьнежні 2010 году на жыцьцё як саміх ахвяраў перасьледу, так і беларускага грамадзтва ў цэлым.

На слуханьнях, акрамя сяброў Камісіі, выступілі былы кандыдат у прэзыдэнты Беларусі Алесь Міхалевіч, які расказаў пра фізычныя і маральныя зьдзекі зь вязьняў к турме КДБ у Менску , Роджэр Патоцкі з Нацыянальнага фонду падтрымкі дэмакратыі і С'юзэн Корк зь няўрадавай амэрыканскай арганізацыі «Freedom House».

У Хэльсынскую камісію ЗША ўваходзяць 9 прадстаўнікоў Сэнату, 9 прадстаўнікоў Палаты прадстаўнікоў і 3 прадстаўнікі ўраду ЗША. Камісія, створаная ў 1976 годзе, выводзіць сваю назву ад гэтак званага Хэльсынскага заключнага акту, які падпісалі ЗША, Канада і эўрапейскія дзяржавы ў Хэльсынкі ў 1975 годзе ў завяршэньне канфэрэнцыі аб бясьпецы і супрацоўніцтве ў Эўропе.

## Алесь Міхалевіч у Нью-Ёрку

Пасьля свайго выступу ў Вашынгтоне на слуханьнях Хэльсынскай камісіі ў справе Беларусі, былы кандыдат у прэзыдэнты РБ на апошніх выбарах сп. Алесь Міхалевіч 16 лістапада наведаў беларускі грамадзкі цэнтр на 401 Atlantic Ave, дзе сустрэўся з сябрамі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Сп. Міхалевіч распавёў пра падзеі сьнежня мінулага году ў Менску, зьвязаныя з прэзыдэнцкімі выбарамі, пра свой удзел ў іх у якасьці кандыдата. Таксама пра свой вопыт знаходжаньня ў турме КДБ, пра катаваньні ў адносінах да палітвязьняў. Напрыканцы адказаў на пытаньні прысутных. Сустрэча была кароткаю, бо сп. Алесь сьпяшаўся на цягнік і мусіў ад'ехаць ў Канаду, куды быў афіцыйна запрошаны. Пазьней беларусы з Канады паведамілі нам, што пра візыт Алеся Міхалевіча шмат пісалі канадыйскія газэты.



Jean Francois (арганізатар прыёму Міхалевіча ў Канадзе), Івонка Сурвілла, Алесь Міхалевіч

## Новы драконаўскі закон аб масавых мерапрыемствах

27 лістапада ў Беларусі ўступіў у сілу новы закон «Аб масавых мерапрыемствах», які робіць істотна больш жорсткімі правілы праявдзеньня апазыцыйных акцый і адкрывае практычна неабмежаваныя магчымасьці для спэцслужбаў і праваахоўных органаў.

У законе дадзена характарыстыка ўсіх масавых мерапрыемстваў — мітынгу, флэшмобу, пікетаваньня, вулічнага шэсьця і г.д. Пашыраецца пералік месцаў, дзе іх правядзеньне не дапускаецца.

Упершыню рэглямэнтуецца арганізацыя мерапрыемстваў праз інтэрнэт — ініцыятары ня маюць права зьбіраць людзей праз глабальную сетку, не ўзгадніўшы правядзеньне акцый зь мясцовымі ўладамі. Да атрыманьня дазволу забараняецца абвяшчаць аб даце, месцы і часе правядзеньня акцый у СМІ і інфармацыйных сетках.

Для ўсіх арганізатараў, акрамя дзяржаўных органаў, усталёўваецца так званая «платная аснова» — за ахову грамадзкага правапарадку цяпер давядзецца яшчэ і заплаціць.

Правы супрацоўнікаў праваахоўных органаў істотна пашыраюцца. Міліцыянты ў форме і цывільным маюць права агароджваць тэрыторыю з удзельнікамі дазволенага мерапрыемства, праводзіць відэа- і фотаздымкі, даглядаць грамадзян.

У выпадку, калі арганізатар парушыў усталяваны парадак, ён прыцягваецца да адказнасьці, пасля чаго на працягу году пазбаўляецца права на афіцыйную арганізацыю падобных мерапрыемстваў. Супрацоўнікі міліцыі маюць права спыніць мерапрыемства, калі ўгледзяць у ім пагрозу для навакольных.

Камэнтуючы неабходнасьць прыняцьця новага закону, кіраўніцтва МУС Беларусі не хавае, што папраўкі прынятыя ў сувязі з апошнімі падзеямі ў сьвеце.

Прадстаўнікі дэмакратычнай грамадзкасьці канстатуюць: цьвёрдыя рамкі, у якія афіцыйная ўлада загнала сваіх апанэнтаў, робяць практычна любую спробу процідзеяньня рэжыму крымінальным парушэньнем.

## Старшыня Хэльсынскай камісіі Крыстафэр Сміт прапанаваў ініцыяваць абвінавачаньні супраць Лукашэнкі ў Гаазе

Крыстафэр Сьміт, заявіў на слуханьнях камісіі ў справе Беларусі 15 лістапада, што зьвернецца да адміністрацыі прэзыдэнта ЗША з заклікам працаваць над тым, каб супраць Аляксандра Лукашэнкі вылучылі абвінавачаньні ў Міжнародным крымінальным судзе ў Гаазе. Асноўнай тэмай слуханьняў было тое, як ўплывае перасьлед апазыцыі ў Беларусі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у сьнежні 2010 году на жыцьцё як самiх ахвяраў перасьледу, так і беларускага грамадзтва ў цэлым. Падчас слуханьняў Алесь Міхалевіч, у прыватнасьці, заявіў:

«Я абсалютна ўпэўнены, што Лукашэнка гатовы абараняць сваю ўладу ўсемі магчымымі сродкамі. На жаль, мы можам параўнаць Лукашэнку з Кадафі. Таму я заклікаю Злучаныя Штаты, Эўрапейскі Зьвяз і міжнародную супольнасьць ня верыць яшчэ адной гульні ў лібэралізацыю, у якую рэжым так кепска гуляе. Супрацоўнічаць варта з незалежнай грамадзянскай супольнасьцю ў Беларусі, зь недзяржаўнымі арганізацыямі, як незарэгістраванымі, гэтак і зарэгістраванымі, зь незалежнымі мэдыямі і дэмакратычнымі актывістамі».

## Катаваньні ў беларускіх турмах



Андрэй Бандарэнка

Былы палітвязень Андрэй Бандарэнка выступіў з трыбуны Камітэту ААН па правах чалавека са справаздачай аб праблемах катаваньняў у беларускіх турмах. Андрэй Бандарэнка падрыхтаваў для выступу ў Жэнэве альтэрнатыўны даклад, які прагучаў напярэдадні справаздачы афіцыйнай беларускай дэлегацыі.

Справаздача Андрэя Бандарэнкі ўключала ў сябе факты катаваньня палітвязьняў, а таксама асуджаных розных калёніяў, невыкананьня Беларусьсю міжнароднага і нацыянальнага заканадаўства ў галіне правоў чалавека. Асобны разьдзел справаздачы прысьвечаны праблеме сьмяротнай кары ў Беларусі.

“Улада ня можа змагацца з парушальнікамі закону, якія ўжываюць катаваньні, бо тыя ж катаваньні і замаўляюцца ўладай”, - заявіў Андрэй Бандарэнка.

Яшчэ ў 1987 годзе БССР у складзе СССР, але як асобны сябра ААН, ратыфікавала Канвэнцыю ААН супроць катаваньняў. Ал, з катаваньнямі ў беларускіх турмах праваабаронцы змагаюцца дагэтуль.

*11.11.2011*

## Прысуд Алесю Бяляцкаму: 4,5 года ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці



24 лістапада судзьдзя Першамайскага суду Менску Сяргей Бандарэнка пакараў кіраўніка праваабарончага цэнтру «Вясна», віцэ-прэзыдэнта Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека Алеся Бяляцкага чатырма з паловай гадамі калёніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці.

Праваабаронцы, палітыкі і дыпляматы краінаў Эўразьвязу ды ЗША асудзілі вырак Бяляцкаму. Яны адзначаюць палітычную афарбоўку справы і тое, што віна Бяляцкага не было даказаная.

*24.11.2011*

### Акцыя ў падтрымку Алеся Бяляцкага ў Лацінскай Амэрыцы



У Мэхіка, падчас прэзэнтацыі гадавой справаздачы Абсэрваторыі па абароне праваабаронцаў, калегі Алеся Бяляцкага зрабілі адмысловы здымак у ягоную падтрымку, на якім бачна, што крэсла віцэ-прэзыдэнта Міжнароднай Фэдэрацыі правоў чалавека (FIDH) пустуе.

У прэзэнтацыі справаздачы Абсэрваторыі, якая адбылася 28 лістапада, прынялі ўдзел праваабаронцы з розных краінаў Лацінскай Амэрык: Гватэмалы, Гандурасу, Мэксыкі, Калюмбіі, Вэнэсуэлы.

Як падае сайт праваабарончай арганізацыі Вясна, лацінаамэрыканскія праваабаронцы лічаць, што гэты здымак паслужыць для Алеся Бяляцкага «сымбалем падтрымкі і салідарнасьці ў гэты складаны час, а таксама надзеі на тое, што справядлівасьць будзе аднаўленая, і ён хутка будзе на свабодзе».

Акцыю з пустым крэслам Алеся Бяляцкага яго калегі па дзейнасьці ў FIDH ладзяць у кожнай краіне, дзе праводзяць прэзэнтацыю гадавой справаздачы Абсэрваторыі па сытуацыі з правамі чалавека і працы праваабаронцаў ва усім сьвеце:



*Крэсла з майкай «Свабоду Алесю Бяляцкаму» і здымкам сымбалізавалі прысутнасьць зьняволенага праваабаронцы падчас прэс-канфэрэнцыі 15 лістапада ў сталіцы Фінляндыі горадзе Хэльсынскі.*

# Краіна на продаж: крокі дзяржаўнай здрады

## 18 лістапада кіраўнікі Беларусі, Казахстану і Расеі падпісалі ў Крамлі Дэкларацыю аб эўразійскай эканамічнай інтэграцыі і Дамову аб Эўразійскай эканамічнай камісіі

У Дэкларацыі заяўляецца пра пераход да наступнага этапу інтэграцыйнага будаўніцтва — адзінай эканамічнай прасторы, «заснаванай на нормах і прынцыпах Усясьветнай гандлёвай арганізацыі і адкрытай на любым этапе свайго фармаваньня для далучэньня іншых дзяржаў».

Дакумэнт таксама вызначае далейшыя шляхі інтэграцыйнага ўзаемадзеяньня ў фармаце «тройкі». У якасьці канчатковай мэты абвяшчаецца стварэньне Эўразійскага эканамічнага саюзу..

Кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка лічыць, што да 2015 году эканамічная супольнасьць Расеі, Беларусі і Казахстану будзе называцца Эўразійскі саюз.

«Мы знайшлі, магчыма, правільную фармулёўку („Дэкларацыя аб Эўразійскай эканамічнай інтэграцыі"), каб не забягаць наперад да 2015 году. Фармулюючы і кадыфікуючы ўсе нарматыўна-прававыя акты, якія мы падпісалі і яшчэ падпішам, мы прыйдзем да таго, як будзе ў пэрспэктыве называцца наша эканамічная супольнасьць. Думаю, што гэта будзе Эўразійскі саюз», — сказаў Лукашэнка па заканчэньні цырымоніі падпісаньня. Паводле Лукашэнкі, інтэграцыйныя працэсы паміж Расеяй, Казахстанам і Беларусьсю не вядуць да ўшчамленьня сувэрэнітэту якой-небудзь з краінаў.



Аднак, аналітыкі і палітыкі з боку дэмакратычных сілаў ацэньваюць гэтую падзею, як крок да аднаўленьня Савецкага Саюзу, як праяву расейскіх імперскіх амбіцыяў і як непасрэдную пагрозу беларускай дзяржаўнасьці.

### Расейскі алігарх будзе нажывацца на здабычы беларускіх калійных угнаеньняў

Напрыканцы кастрычніка Менскі гарвыканкам зарэгістраваў новае прадпрыемства – "Славкалій". Яно ўтворана кампаніяй расейскага алігарха Міхаіла Гуцэрыева. "Слаўкалій" афіцыйна стане другім прадпрыемствам ў Беларусі па здабычы калійнай руды і вытворчасьці калійных угнаеньняў. Раўнапраўна з "Беларуськаліем" прадпрыемства расейскага алігарха зоймецца распрацоўкаю Старобінскага месца здабычы хлорыстага калія.

### Газавая капітуляцыя Лукашэнкі

25 лістапада ў Маскве ў рамках паседжаньня Вышэйшага дзяржаўнага савету так званай Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расеі быў падпісаны пакет газавых дамоваў, згодна зь якім Беларусь прадала Расеі магістральныя газаправоды «Белтрансгаз» і атрымала «інтэграцыйную» зьніжку на цану газу на будучы год.

Прэзыдэнт Расеі Дзьмітрый Мядзьведзеў наўпрост зьвязаў гэтую падзею з палітычнай інтэграцыяй дзвюх краінаў і не хаваў радасьці, што імперскія пляны Расеі ў адносінах да Беларусі набываць рэальныя абрысы: «Саюзная дзяржава свайго патэнцыялу ня вычарпала», а сёлета «набыла новае дыханьне», стала дзейнічаць больш дынамічна і зьмястоўна, хоць летась многія думалі, што яны выдыхнулася. І я скажу шчыра: Расейская Фэдэрацыя гэтаму рада».

Паводле падпісаных дамоваў, у 1-м квартале 2012-га цана на газ для Беларусі складзе 165,6 даляра за тысячу кубамэтраў. Гэта амаль удвая меней, чым Беларусь павінна плаціць у 4-м квартале 2011 году. Пры гэтым «Газпром» набывае ўсе 100% акцыяў «Белтрансгазу». Не было яшчэ прыкладаў, каб «Газпром» цалкам валодаў газавай структурай у нейкай краіне.

Былы супрацоўнік «Белтрансгаза» Алесь Мех продаж "Белтрансгазу" Расеі называе пагрозай незалежнасьці Беларусі:

«Расея набыла стратэгічнае прадпрыемства Беларусі, ключ да ўсёй эканомікі. Тут ужо ня ціск Масквы, гэта калі дзяржаву бяруць за горла… Трэба гэтых чыноўнікаў папярэдзіць, што гэтае іх рашэньне незаконнае і антыбеларускае».

Апрача газавага, сёньня было падпісанае і атамнае пагадненьне — Расея абавязалася выдаць Беларусі 10 мільярдаў даляраў крэдыту на будаўніцтва АЭС.

Што яшчэ засталося прадаць ў Беларусі, каб выкупіць жыцьцё і ўладу для дыктатара?

# Заява Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА)

Беларуска- Амэрыканскае Задзіночаньне выказвае глыбокую занепакоенасьць апошнімі падзеямі ў Беларусі, якія відавочна вядуць да страты дзяржаўнай незалежнасьці нашай Бацькаўшчыны. Мы пратэстуем супроць гандлю жыцьцёва важнымі інтарэсамі беларускага народу, які вядзе сёньня Лукашэнка з імпэрскаю Расеяю.

У страху за сваё жыцьцё і захаваньне ўлады дыктатар пайшоў на дзяржаўную здраду. Падпісаныя ў Маскве дамовы пра быццам бы толькі эканамічны Эўразійскі саюз тояць у сабе злавесную пагрозу не толькі эканамічнай, але і далейшай палітычнай інкарпарацыі нашай краіны ў склад новай Расейскай імпэрыі. Сам Лукашэнка неаднаразова заяўляў пра тое, што ў будучыні справа пойдзе пра палітычны саюз.

Наступны згубны крок, які па ўласнай волі зрабіў Лукашэнка – продаж "Белтрансгазу", што ставіць у поўную залежнасьць ад Расеі гэты важнейшы складнік эканомікі Беларусі.

Акрамя газавага, Лукашэнка заключыў атамнае пагадненьне з Расеяю, апошняя абавязалася выдаць Беларусі 10 мільярдаў даляраў крэдыту на будаўніцтва АЭС. Відавочна, што і будаваць яе будуць расейцы.

Гэта азначае, што АЭС пачне будавацца нават супроць волі беларускага народу, пацярпелага ад Чарнобылю.

Адначасна, дыктатар вядзе поўную зачыстку палітычнага поля ў краіне, вынішчаючы ўсякія праявы супраціву, ці нават нацыянальнага разьвіцьця.

Палітвязьні сядзяць у турмах, уводзіцца новы драконаўскі закон пра масавыя мерапрыемствы, ліквідуецца беларускае нацыянальнае жыцьцё, культура, ствараюцца новыя структуры, мэтаю дзейнасьці якіх з'яўляецца абарона ўлады дыктатара нават са зброяю ў руках.

Мы, беларусы ў Амэрыцы, ня можам заставацца абыякавымі да ўсяго гэтага здрадніцтва. Мы адчуваем адказнасьць за далейшы лёс Беларусі і нагадваем Аляксандру Лукашэнку, што ягоныя антыбеларускія пагадненьні і дамовы не маюць юрыдычнай сілы, што ягоныя сфальшаваныя выбары не далі яму законнага права выступаць ад імя беларускага народу. Лукашэнка ня ёсьць легітымным прэзыдэнтам Беларусі і тыя, хто падпісвае з ім дамовы павінны разумець, што яны ня будуць прызнаныя ў будучыні.

Мы заклікаем беларускую эміграцыю ў сьвеце падтрымаць нашу Заяву і выказаць свой пратэст супроць здрадніцкай палітыка Лукашэнкі.

*Галоўная управа БАЗА*
*27 лістапада 2011*

# Натальля Радзіна: «У нашых сілах разбурыць турму ў цэнтры Эўропы”

Рэдактару сайта charter97.org Натальлі Радзінай уручана у Нью-Йорку аўтарытэтная міжнародная ўзнагарода «За свабоду прэсы». Прэмія з'яўляецца штогадовым прызнаньнем мужнасьці, праяўленай журналістамі, яна прысуджаецца Камітэтам па абароне журналістаў.




22 лістапада ў Grand Ballroom гатэля Waldorf Astoria ў Нью-Йорку сабраліся каля 1000 чалавек: вядомыя журналісты, праваабаронцы, грамадзкія дзеячы, прадстаўнікі медыя,фінанасісты. Імпрэзу вяла папулярная тэлевядучая ABS News Крыстыан Аманпур и тэлевядучы канала NBC News Брайан Уільямс.

Выступ Радзінай прысутныя віталі стоячы. Журналістка гаварыла пра сёньняшнюю сытуацыю ў Беларусі, пра перасьлед іншадумцаў і дэмакратычных актывістаў, пра перасьлед апазыцыйнай прэсы. Натальля ўзгадала імёны ахвяраў рэжыму, якія былі зьнішчаныя, і тых, якія пакутуюць ў вязьніцах. Яна сама аказалася у турме пасьля вядомых падзеяў у Беларусі 19 сьнежня мінулага году і потым вымушана была пакінуць Радзіму.

На завяршэньне сваёй прамовы журналістка сказала: “Сёньня мы назіраем, як падаюць дыктатуры ў цэлым сьвеце. У нашых сілах разбурыць і турму ў цэнтры Эўропы”. Яна заклікала прысутных : “Калі ласка, не забывайце пра Беларусь. У маёй краіне жывуць 10 млн. чалавек і яны спадзяюцца на вашу дапамогу”.

*Паводле сайту charter97.org*

# Няма прарокаў у сваёй Айчыне

Перачытваючы Быкава, натрапілася мне цікавая гутарка Сяргея Навумчыка з пісменьнікам, надрукаваная ў кнізе “Крыжовы шлях” (Менск,1998) пад назваю “Будучыня рэспублікі”.

Размова з Васілём Быкавым датаваная 1991 годам. Гэта быў час уздыму нацыянальна-дэмакратычнага руху, у той год адбылося шмат лёсавызначальных падзеяў у Беларусі – наданьне Дэклярацыі аб незалежнасьці сілы канстытуцыйнага закону, прыняцьцё гістарычнай дзяржаўнай сымболікі і, нарэшце, Віскулі і распад СССР. Нам бачылася наперадзе сьветлая будучыня ў незалежнай дэмакратычнай Беларусі. Але, па іншаму глядзеў на сытуацыю мудры Васіль Уладзіміравіч. Трэба аддаць належнае Сяргею Навумчыку, які задаў пісьменьніку гэта важнае пытаньне:



*“Як мяркуеце, Васіль Уладзіміравіч, - ці рэальны варыянт працяглай крывавай дыктатуры, якая ізноў адкіне нас у эпоху “класавых баёў”?”*

**Васіль Быкаў:** “Усё будзе залежаць ад палітычнай волі грамадзтва.
І тут узьнікае пытаньне: ці валодае наша беларускае грамадзтва якой-небудзь выразнай палітычнай воляй? І нават так: ці ёсьць у нас тое палітычна сьвядомае грамадзтва? Прынамсі, дагэтуль не было ніколі. Улада цьвёрдай рукі, дыктатура, пра якую марыць наменклатура і добрая частка людзей працоўных, адкіне нас не ў эпоху “класавых баёў” , а ў адзін вялікі канцлягер, дзе будзе выдатны лягерны парадак. Лягернае аднадумства, лягерны тэрор. І будзе парадак – роўны і дакладны. Кожны будзе жыць строга па рэглямэнце – гадзіна ў гадзіну: жыць, працаваць і паміраць. Усё строга па норме, у свой час. Пры поўнай згодзе. І ні табе мітынгаў, ні забастовак, ні нефармалаў, ні апазыцыі. Затое будзе Вялікі, Шаноўны, Усімі Любімы Правадыр – Дыктатар”…

**Сяргей Навумчык:** “Вы сказалі, што пра дыктатуру трызьніць не толькі чыноўніцтва. Сапраўды, ад простых людзей часам чуеш: хопіць гэтага вэрхалу, патрэбна моцная рука. Людзі, здаецца, згодныя на любога Сталіна – толькі б хлеб у крамах быў…”

**Васіль Быкаў:** “ Толькі каб быў хлеб у крамах… Хлеба яшчэ трохі ёсьць – не хапае дыктатара…**Але ён будзе**”.

Гэтыя прарочыя словы былі сказаныя Быкавым за тры гады да прыходу гэтага самага дыктатара. Яшчэ быў час, каб зрабіць нешта, каб папярэдзіць, Быкава слухалі, але не чулі. Лічылі яго занадта вялікім песымістам. Асноўныя высілкі палітычных сілаў таго часу былі скіраваныя на тое, каб будаваць новую краіну, ствараць заканадаўчы падмурак, распрацоўваць накірункі эканамічнага разьвіцьця будучай Беларусі. Але тая, уяўная намі будучыня не прыйшла, усё, што было зроблена, хутка і жорстка было зламана, разбурана цёмнаю сілаю, якой мы не здолелі паставіць надзейны заслон. І прыйшла яна зусім не ў аблічча Кебіча.

Гісторыю не пер345аробіш, мінулае не вернеш. Адзінае, што можна рабіць – гэта вучыцца на памылках. Ці сёньня мы ізноў не наступаем на тыя самыя граблі?

Уся актыўнасьць дэмакратычнага руху скіраваная на змаганьне з рэжымам. І гэта зараз найважней, без змаганьня не будзе лепшай будучыні. Але, яе не будзе і тады, калі ізноў вынікі гэтага змаганьня прыбяруць да рук цёмныя сілы, якія акажуцца больш падрыхтаваныя да захопу ўлады, маёмасьці і ўсёй краіны ўвогуле. Адным словам, ці не станецца тое, што адбылося ў 1994 годзе?

Сёньня многія замежныя палітыкі і аналітыкі задаюцца пытаньнем – што будзе ў Беларусі пасьля Лукашэнкі? Але, пакуль не бачна у самой Беларусі сярод палітычных лідэраў тых, хто б ставіў гэтае пытаньне і нешта рабіў, каб пазьбегнуць памылак мінулага. Эйфарыя змаганьня павінна была б суправаджацца карпатлівую працаю над тым, што трэба рабіць канкрэтна, калі б, гаворачы словамі расейскага сатырыка Шандаровіча, “Бог прыбраў Аляксандра Рыгоравіча”.

*Ганна Сурмач*

# Эўропа працягвае карміць апошнюю дыктатуру

Посьпех афшора сям'і Лукашэнкі на эўрапейскім рынку ў 2011 годзе ўражвае. Па дадзеных Беларускай статыстычнай службы ў студзені- верасьні 2011 году таваразварот Беларусі з краінамі Эўразьвязу вырас больш чым на 76 адсоткаў і склаў больш за 17 з паловаю мільярдаў, гэта ў асноўным за кошт росту экспарту нафтапрадуктаў. Агульны экспарт павялічыўся ў 2,3 разы, імпарт – на 25, 9 адсоткаў.

Пры гэтым, што ўласнай нафты ў Беларусі амаль няма, яе недахоп кампенсуе ўвоз звонку (імпарт). Беларусь ў бягучым годзе павялічыла імпарт нафты на 44 адсоткі ў параўнаньні з гэтым перыядам (студзень-верасень) мінулага году.

Асноўнымі пакупнікамі прадукцыі сямейнага бізнэсу беларускага дыктатара з'яўляюцца Галяндыя і Украіна, а таксама Нямеччына, Латвія і Польшча

*Паводле Charter97 17.11.2011*

# Высланых з Расеі таджыцкіх мігрантаў адправяць у Беларусь

Працоўных мігрантаў, дэпартаваных з Расеі ў Таджыкістан, плянуецца накіраваць у Беларусь. Пра гэта заявіў кіраўнік міграцыйнай службы пры урадзе Таджыкістана сп. Дэванаеў. Прамаўляючы на семінары па пытаньнях міграцыі ў Душанбэ, ён паведаміў, што дарога міграцыі ў бок Беларусі" ужо адчыненая" , што быццам бы ў кастрычніку было падпісана міжурадавае пагадненьне па гэтаму пытаньню. Дэванаеў запэўніў: "Мы зьбярэм дэпартаваных і адправім іх у Беларусь".

Па ягоных словах, адпраўка пачнецца ў 2012 годзе

## Вестк**і** з Вільні

# Імпрэза ў Таварыстве беларускай культуры

30 кастрычніка у сядзібе Таварыства беларускай культуры ў Літве адбылася чарговая імпрэза. Ужо цэлы год у ТБК існуе традыцыя – кожнае мерапрыемства вядзе адзін з чальцоў Рады арганізацыі. Гэтым разам ганаровы абавязак выконваў Валеры Радзюкевіча. Ён распачаў імпрэзу расповядам пра знаёмства з выбітным беларускім гісторыкам, археолягам і краязнаўцам Генадзем Каханоўскім.

Каханоўскі жыў і працаваў у родным для Валеры Радзюкевіча горадзе – Маладэчне. Валеры вучыўся ў той школе, дзе выкладаў Каханоўскі. Тады яго вельмі ўразіла харызматычнасьць Каханоўскага, пэдагагічны талент і адданасьць сваёй працы.

Таксама ў жыцьці беларускай віленскай грамады ў апошні час адбылася важная падзея: на літоўскім радыё "Культура" пачала выходзіць абноўленая перадача "Тутэйшы час" з новым вядучым Андрусём Старавойтавым, таму наступным слова ўзяў аўтар праграмы. Андрусь распавёў, як рыхтуецца яго перадача і як яе можна паслухаць. Таксама была прэзэнтаваная адна з праграм, што ўжо гучала ў эфіры.

У сёлетнім кастрычніку споўнілася 35 гадоў ад дня сьмерці Радаслава Астроўскага, які працяглы час быў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі. Сябра ТБК Артур Яўмен распавёў пра жыцьцё і дзейнасьць Астроўскага.

Далей Алесь Адамковіч зрабіў прамову пра беларускага сьвятара – Часлава Сіповіча, які быў выбітным дзеячам беларускай эміграцыі й стваральнікам Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане.

Мерапрыемства завяршыў старшыня Таварыства Хведар Нюнька, які падзяліўся ўспамінамі часоў стварэньня ў 1991 годзе Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў. Сп. Хведар прыгадаў незабыўныя ўражаньні ад дня ўрачыстага прынясеньня вайскоўцамі прысягі Рэспубліцы Беларусь, што адбылася ў Менску пад нацыянальнйі сымболікай, а таксама заклікаў да салідарнасьці са стваральнікам БЗВ Міколам Статкевічам, які цяпер знаходзіцца ў кіпцюрах карнай машыны існуючага ў Беларусі рэжыму.

*Вітольд Паўлюкевіч*
*Вільня*

# Беларусы ў Летуве: пазытыўныя зрухі

Сёлета ўпершыню за апошнія 20 гадоў колькасьць беларусаў у Летуве павялічылася, а не зьменшылася. Прырост склаў больш за 5 тыс. асобаў. Пра гэта было паведамлена на сайце Дэпартамэнта статыстыкі па выніках перапісу насельніцтва 2011 году. На пачатак 2010 году ў гэтай краіне налічвалася 35,9 тыс. беларусаў, а праз год лічба вырасла на 14 адсоткаў і склала 41.1 тыс. чалавек.

Беларусы ў Летуве ёсьць трэйцяй па колькасьці нацыянальнай мяньшыняю пасьля палякаў і расейцаў.

## Вестк**і** з Талліна

***У нашу рэдакцыю прыйшоў ліст ад Артура Цурбакова - сябра управы Беларускага інфармацыйнага цэнтра ў Эстоніі:***

*"Паважанае спадарства, некалькі вашых газэтаў "Беларус" перадала нашай арганізацыі Наста Ільчанка. Яна некалькі тыдняў таму была ў вас у гасцях.*

*Дасылаю вам інфармацыю пра адно з нашых мерапрыемстваў. Асноўным момантам тут з'яўляецца заклік да міжнароднай беларускай грамадзкасьці, зьвязаны з ініцыятывай пошукаў страчаных ракапісаў Уладзіміра Караткевіча."*

# Адкрыты ўрок у школе імя Ул. Караткевіча

У старым горадзе Таліна, у памяшканні Беларускага культурна-інфармацыйнага цэнтра з посьпехам прайшоў адкрыты ўрок на тэму "Беларускі народны лялечны тэатр Батлейка". Мерапрыемства выклікала вялікую цікавасьць у беларусаў -жыхароў Таліна. Менавіта таму ўрок праходзіў двойчы - у 11 і ў 15 гадзін. На першым уроку большую частку слухачоў складалі дзеці, якім цікава было непасрэдна пазнаёміцца з Батлейкай. На другі ўрок разам з дзецьмі прыйшлі і бацькі, таму ён прайшоў у форме лекцыі пра гісторыю і традыцыі тэатра Батлейка.

Пасьля знаёмства з Батлейкаю адбылася гаворка пра творчасьць беларускага пісьменьніка Уладзіміра Караткевіча. Адной з місій нашай школы, якая носіць імя пісьменьніка, з'яўляецца папулярызацыя творчасьці Уладзіміра Караткевіча. Гэты добры і вясёлы чалавек зьдзейсніў творчы подзьвіг - ён змог абысьці савецкую цэнзуру і сваімі творамі вярнуць беларускаму народу яго гісторыю. Наша мэта - ускалыхнуць прадстаўнікоў сусьветнай беларускай дыяспары, з тым каб беларусы замежжа таксама змаглі далучыцца да пошуку зьніклых рукапісаў Караткевіча пра подзьвігі герояў беларускага народа.

Справа ў тым, што пасля сыходу Караткевіча з жыцця ў 1984 годзе застаўся невядомым лёс трэйцяй часткі рукапісаў рамана пра паўстанне Кастуся Калиноўскага "Каласы пад сярпом тваім". Існуе вэрсія, што рукапісы выкралі савецкія спецслужбы з мэтай прыглушыць нацыянальнае адраджэнне беларусаў. У наш час было б вельмі важна выдаць поўны тэкст гэтага выдатнага твора.

*tsurbakoua@gmail.com*
*+372-5555-43-40 (Estonia)*



*Артур Цурбакоў з вучнямі школы імя Караткевіча*

# Янка Станкевіч (1891 – 1976)

*26 лістапада споўнілася 120 гадоў ад нараджэньня Янкі Станкевіча, грамадзка-палітычнага дзеяча, мовазнаўцы, гісторыка, публіцыста, дзеяча эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.*

*Янка Станкевіч прыехаў у Амэрыку вясною 1949 году адным з першых паваенных беларускіх эмігрантаў. Ён з сям'ёю прыпыніўся ў Нью-Ёрку і жыў у верхнім Манхэттане на Іст 100-й вуліцы. Кватэры ў гэтым доме былі вядомая многім беларускім эмігрантам, дзе яны знаходзілі першы прытулак на чужыне. Янка Станкевіч дапамог многім беларусам трапіць у ЗША з лягераў ДП у Нямеччыне, а пасьля распачынаць жыцьцё на новым мейсцы. Ён быў адным з тых, хто запачаткоўваў беларускае грамадзкае жыцьцё ў Амэрыцы і браў ў ім самы дзейсны ўдзел. Менавіта ў "беларускім гняздзе" на 100-й вуліцы было заснавана Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне і тут прайшоў яго першы гадавы сход.*

*Да юбілейнай гадавіны ад нараджэньня Янкі Станкевіча варта ўшанаваць памяць гэтага адданага беларускага патрыёта і рупліўца і нагадаць пра ягоны жыцьцёвы шлях.*

Янка Станкевіч нарадзіўся 26 лістапада 1891 году ў Арлянятах Ашмянскага павету на Віленшчыне ў заможнай сялянскай сям'ія, якая дбала пра адукацыю сваіх дзяцей. У 1909 годзе Янка скончыў Ашмянскае гарадзкое вучылішча. Гэта быў час, калі як раз на Віленшчыне пачыналася беларускае Адраджэньне. Цэнтрам яго была першая беларуская газэта "Наша Ніва", што выходзіла ў Вільні. Вакол яе гуртаваліся тыя, хто адчуваў у сабе цягу да свайго роднага – мовы, культуры, нацыянальных традыцыяў і звычаяў. Такім быў і юнак з Арлянятаў. Праз некаторы час Янка Станкевіч перабіраецца ў Вільню і знаёміцца з актыўнымі адраджэнцамі, працаўнікамі рэдакцыі газэты – братамі Луцкевічамі, Вацлавам Ластоўскім, Аляксандрам Уласавым, пазьней – з Максімам Гарэцкім, Янкам Купалам. Сем месяцаў Янка Станкевіч працаваў стала ў рэдакцыі "Нашай Нівы". Менавіта ў гэты час канчаткова сфармаваўся характар і сьветапогляд юнака, як адданага беларускага патрыёта. Усё ягонае далейшае жыцьцё было зьвязана са служэньнем беларускай справе, незалежна ад таго, куды потым закідаў яго вандроўны лёс.

Калі пачалася Першая сусьветная вайна, Янку Станкевіча прызвалі ў расейскае войска. Гэта дало магчымасьць яму пазнаёміцца з іншымі беларускімі асяродкамі ў Менску і Пецярбургу. Пасьля фронту і аўстрыйскага палону ў канцы 1917 году ён вяртаецца ў Вільню і актыўна ўключаецца ў беларускае жыцьцё. Браў удзел у заснаваньні Беларускага Навуковага Таварыства, разам з Максімам Гарэцкім падрыхтавалі "Маленькі беларуска-расейскі слоўнік", які потым быў надрукаваны ў Менску. Разам з сябрамі Віленскай Беларускай Рады перабіраецца ў сакавіку 1918 году ў Менск, дзе насьпявалі вялікія палітычныя падзеі. Тут Янка Станкевіч прымаў удзел ў гістарычных пасяджэньнях Рады БНР, якія прывялі да абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году. Наступныя некалькі гадоў Янка Станкевіч шмат працаваў ў галіне асьветы, ён займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва на роднай Ашмяншчыне і іншых суседніх паветах. Але, яму самому не хапала адукацыі і ўжо у свае 29 гадоў ён мусіў пайсьці давучыцца ў Віленскую беларускую гімназію, каб дастаць атестат сталасьці. Пасьля гэтага Янка атрымаў магчымасьць вучыцца далей і калі надалася нагода паехаць вучыцца ў чэшскую Прагу, ён ахвотна скарыстаў яе і выехаў на студыі ў Чэхію. Вучыўся ён у знакамітым Карлавым унівэрсытэце, дзе абараніў у 1926 годзе дактарат у галіне славянскай моваведы і гісторыі.

У Празе Янка Станкевіч пазнаёміўся з чэшскаю студэнткаю Марыяй Новак і па вяртаньні ў Вільню ажаніўся з ёю, каб прайсьці разам наступныя 50 гадоў свайго жыцьця. У Вільня Янка найброльш выяўляе сябе ў выдавецкай і педагагічнай дзейнасьці, працуе далей ў Беларускім Навуковым Таварыстве. У гэты час піша шмат артыкулаў, рыхтуе да выданьня кнігі. Браў удзел таксама ў грамадзкім і палітычным жыцьці, у 1928 годзе быў абраны пасла у польскі сэйм ад Лідзкай акругі.

Пачатак Другой сусьветнай вайны, прыход бальшавікоў у Заходнюю Беларусь, паход гітлераўскага войска на Усход прымусілі сям'ю Станкевічаў зрушыцца з месца. Янка Станкевіч і ў гэтых жорсткіх , зьменлівых, неспрыяльных умовах увесь час знаходзіў любыя магчымасьці, каб працаваць на беларускія інтарэсы. Ягоная жонка з дзецьмі мусілі перабрацца ў Прагу. Разлучаная вайною сям'я змагла на стала аб'яднацца толькі ў Заходняй Нямеччыне, дзе яны жылі ў лягерох ДП да самага выезду ў Амэрыку. У Нямеччыне Янка Станкевіч працягнуў сваю грамадзкую і навуковую парацу на беларускай ніве.

Па прыездзе у ЗША Янка Станкевіч, нягледзячы на ўсе цяжкасьці пачаткаў эміграцыйнага жыцьця ў іншай краіне, на першае месца ставіў беларускія справы. Тут ён пачаў выдаваць навуковы часапіс "Веда", друкуецца ў "Запісах" БІНІМа, у газэце "Бацькаўшчына", бярэ чынны ўдзел у дзейнасьці Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Гадамі Янка Станкевіч рабіў вялізную працу па складаньню Расейска- беларускага слоўніка, які цяпер так ведамы ўсім зацікаўленым беларусам.



Напрыканцы жыцьця Янка Станкевіч зьдзейсніў сваю запаветную мару – зрабіў пераклад Бібліі на беларускую мову. Адолеў ён гэтую вялізную працу ў супольнасьці з д-рам М. Гітлінам, спецыялістам у габрэйскай і грэцкай мовах. Пераклад Новага Запавету выйшаў у сьвет у 1970 годзе, а цэлай Бібліі – Старога і Новага Закону – у 1973 годзе, было Янку Станкевічу тады 82 гады і заставалася яшчэ тры гады плённага жыцьця да адыходу у вечнасьць ў ліпені 1976 году.

Янка Станкевіч пакінуў па сабе вялізную навуковую і творчую спадчыну, пра якую мы толькі часткова тут згадалі. Яна сабраная ў 4-х тамах збору твораў , выдадзеных у Менску напачатку 2000-х гадоў. Але, усё гэта яшчэ недастаткова дасьледавана і ўведзеная ў беларускае навуковае жыцьцё. Спадзяемся, што ў будучыні яна будзе шырока скарыстаная і разьвітая новымі дасьледчыкамі беларускай гісторыі і культуры.

Патрэбна сказаць на завяршэньне, што спадчына Янкі Станкевіча – гэта не толькі зробленае і напісанае ім, але і справы, якія рабіліся і робяцца ягонымі нашчадкамі на беларускай дзялянцы. У ягонай сям'і вырасьлі трое сыноў – Юрка, Вячка і Богуш. Імёны першых двух добра вядомыя ў беларускім замежжы і ў Беларусі. Асабліва Юрка і Вячка Станкевічы ад самага дзяцінства бралі самы дзейсны ўдзел у беларускім жыцьці там, дзе ім даводзілася жыць з бацькамі. Гэта і беларускі скаутынг, і моладзевы рух і сяброўства ў БАЗА ад пачатку ягонага існаваньня. Вячка Станкевіч некалькі разоў абіраўся старшынём Галоўнай управы БАЗА, доўгі час таксама працаваў кіраўніком Беларускай Рэдакцыі Радыё Свабода. Сёньня ён з'яўляецца старшынём Рады дырэктараў Фундацыі Крэчэўскага, доўгія гады уваходзіць у склад Рады БНР і цяпер выконвае абавязкіаднаго з намесьнікаў старшыні Рады. Юрка Станкевіч , жывучы зараз у Празе, падтрымлівае там жыцьцё беларускага клюба і займаецца выданьнем англамоўнага інфармацыйнага часапіса "Belarusian Review".

Выглядае, што бацькавая упартасьць і пасьлядоўнасьць у служэньні свайму народу ў поўнай меры перадалася і сынам Янкі Станкевіча. Яны таксама адчуваюць сваю адказнасьць за прыналежнасьць да слаўнага беларускага роду Станкевічаў , з якога паходзяць такія вядомыя ў гісторыі Беларусі імёны, як Адам Станкевіч, Станіслаў Станкевіч, Вацлаў Станкевіч( палітычны дзеяч у сучаснай Летуве), жонка Янкі Купалы – Уладзіслава Станкевічанка….

*Ганна Сурмач*

## Прысуд Кавалёву і Канавалаву



30 лістапада першы намесьнік старшыні Вярхоўнага суду Беларусі Аляксандар Федарцоў прыгаварыў Зьмітра Канавалава і Ўладзіслава Кавалёва да сьмяротнага пакараньня. Праваабаронцы і грамадзкія дзеячы ўжо асудзілі такі жорсткі вырак. Сям'я Кавалёва заявіла, што будзе прасіць Аляксандра Лукашэнку захаваць жыцьцё Ўладзіславу.

## Алег Воўчак: Гэта вялікае кляймо, гэта другая «віцебская» справа

У працэсе над абвінавачанымі ў арганізацыі выбуху ў менскім метро Дзьмітрыем Канавалавым і Ўладзіславам Кавалёвым завяршыліся судовыя слуханьні і пракурор патрабаваў для абодвух сьмяротнае пакараньне.

З апошнім словам выступіў адзін з абвінавачаных Уладзіслаў Кавалёў. Ён па-ранейшаму не прызнаў сябе вінаватым у арганізацыі і правядзеньні тэракту. Падцьвердзіў ранейшыя сьведчаньні, што ўсе паказаньні зрабіў пад прымусам. Ён таксама заявіў, што пераканаты ў невінаватасьці Канавалава. Дзьмітрый Канавалаў адмовіўся даваць паказаньні падчас судовага працэсу, ён адмовіўся прамаўляць і апошняе слова.

Кіраўнік праваабарончага цэнтру «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Воўчак у сваім інтэрвію Радыё Свабода так ацаніў гэты судовы працэс:



**Алег Воўчак**

"…Ён крайне непісьменна падрыхтаваны і цалкам палітызаваны. Няма аніякай лёгікі і ўвогуле — у мяне складваецца ўражаньне, што зьляпалі з таго, што было, і адправілі ў суд. Ведаючы, што суд прыме іх гледжаньне, і ня трэба напружвацца ды нешта думаць. Увогуле, канечне, гэта сорам, сорам усёй праваахоўчай сыстэмы, ганьба перад Інтэрполам і ўсімі міжнароднымі спэцслужбамі. Гэта вялікае кляймо, гэта другая «віцебская» справа. Я ўсюды ўжываю гэтае слова і нагадваю грамадзкасьці пра гэтую справу, калі з 15 невінаватых людзей двух расстралялі, а астатнія выйшлі з-за кратаў інвалідамі…

Гэты судовы працэс паказаў, што людзі ў нашай краіне не абароненыя. І праваахоўныя органы, і суд, і сама дзяржава, якія абавязаныя абараняць чалавека, яны наадварот зьбіваюць, зьнішчаюць, ломяць лёсы людзей. І проста ў людзей няма абароны ўнутранымі даступнымі мэханізмамі — судовымі і праваахоўнымі. А міжнародная супольнасьць, я думаю, таксама дасьць ацэнку гэтаму працэсу. Але самае галоўнае людзі ўжо сказалі. Людзі на сто адсоткаў упэўненыя, што ўлада арганізавала гэты выбух, што яна датычная да ўсяго, і што гэта — невінаватыя людзі".

*15.11.2011*

## Польшча кампэнсуе канфіскацыю маёмасьці Бяляцкага



«Польшча возьме ўдзел у кампэнсацыі арыштаванай маёмасьці беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага», — заявіў міністар замежных спраў Польшчы Радаслаў Сікорскі 29 лістапада на Форуме грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства ў Познані.

## Новы сюжэт амэрыканскага серыяла "Нікіта": Беларускі дыктатар забіты. Краінаю правіць ягоны двайнік




Але двайнік пазбаўляецца ад сьведкаў і становіцца новым дыктатарам. Сакрэтнае агенцтва, у якім працуе Нікіта, атрымлівае загад забіць выйшаўшага з пад кантролю двайніка і спецкаманда накіроўваецца ў Беларусь, каб выканаць заданьне. Гэты сюжэт з'явіўся ў 5 серыі другога сезону. Цяпер гэты серыял наўрад ці пакажуць на беларускім тэлебачаньні.

# BELARUS ART

Сёньня на нашай старонцы мы прадстаўляем творчасьць Алеся Салдаценкі з Беларусі, які даслаў нам наступны ліст:

*"Вітаю Вас! Пачуў пра Вашу газэту ад аднаго сябра-беларуса, які на цяперашні час жыве ў Англіі. Сам я беларус таксама, жыву ў Беларусі. Справа ў тым, што я пішу вершы па-беларуску, але, на жаль, надрукаваць іх у межах Радзімы не ўяўляецца магчымым. Беларускамоўных вершаў не так шмат, у асноўным я пішу па-расейску, ёсць таксама спробы пісаць*
*па-ангельску і творчыя пераклады з ангельскай і гішпанскай моваў на расейскую, але адчуваю ў сабе моцнае жаданне пісаць менавіта па-беларуску. Хацеў бы запытаць у Вас, ці ёсць магчымасць апублікаваць мае вершы на старонках вашага выдання?"*

Алесь даслаў нам некалькі вершаў і па- расейску, але, відавочна, што пісаць па-беларуску ў яго атрымліваецца значна лепш.

### Прысьвячаецца ўсім тым, хто быў на Плошчы Незалежнасьці ў Менску ў ноч на 20 сьнежня 2010 году

Я прачнуўся сёньня зранку
З вельмі цёмным пачуцьцём:
Горка, сорамна і крыўдна
Было мне тым зімнім днём.
Каля поўначы на Плошчы
Гвалтавалі мой народ…
І былі то не чужынцы…

Крыўдна было за краіну,
Што праз летапіс гадоў
Пранясла моц, славу, гонар…
Каб стаптаць іх у сьнезе ў кроў…
Разарваныя штандары,
Разарваныя сьцягі,
Неўтрымальнай людзкой хвалі
Замінулі берагі.
Сорамна мне за дзяржаву,
Што пад час людзкіх нягод
Зачыняе шчыльна дзьверы,
Зьневажае свой народ.
Балюча мне за нашу моладзь
І за сталых, і старых,
Хто ў тую ноч на Плошчы
Пацярпелі ад "сваіх".

### Заблытанасьць

Не разумею, што са мной:
Апошнім часам сам не свой,
Усё размываецца ў смузе,
Мой лёс бы колы на вадзе.
Вакол мяне, унутры мяне
Усё зблытана, нібы ў сьне:
Каханьне, крыўда, лёс, ярмо,
Сяброўства, згода – усё адно.
Што я павінен зразумець?
Пра што мне марыць? Пра што пець?
Што ганьбіць мне і што ўхваляць?
Што думаць мне і што казаць?
Што ёсьць мой шлях? Куды я йду?
Што бачу я? Чаму маўчу?
Мільён пытаньняў – аднаму.

*Алесь Салдаценка*
*soldatsoldat2009@rambler.ru*

## Старэйшай супрацоўніцы Радыё Свабода не дазволілі наведаць Бацькаўшчыну

Галіна Руднік (Ганчарэнка) ў сваё больш за 80 гадоў хацела пабачыць родныя мясьціны і меркавала першы раз пасьля таго, як пакінула Радзіму напрыканцы вайны, прыехаць у Беларусь, пабыць ў родным Бабруйску, можа нават пабачыць яшчэ некага з жывых сяброў і знаёмых. А галоўнае, мелася браць удзел ў прэзэнтацыі ейнай кніжкі ўспамінаў "Птушкі пералётныя", што была нядаўна выдадзеная ў серыі "Біьліятэка Свабоды". Але, ёй, грамадзянцы ЗША, якая цяпер жыве ў Нямеччыне, былой супрацоўніцы



Радыё Свабода з 1954 да пачатку 1990-х , было адмоўлена ў беларускай візе без усялякіх тлумачэньняў. Сп. Галіна добра памятае тую "жалезную заслону", якая некалі аддзяляла яе ад Радзімы, на гэткую перашкоду натыкнулася яна і сёньня.

# Вяртаньне беларускіх рабінзонаў

*Нью-ёркскія беларусы напэўна добра памятаюць цікавую сямейную пару з Беларусі - Жэню Манцэвіч і яе мужа Верасьня. Яны з'явіліся ў Нью-Ёрку і паведамілі, што зьбіраюцца далей перасекчы ўвесь паўднёва-амэрыканскі кантынент і паставіць свой сымбаль – табурэт на мысе Горн. Шмат хто з нас тады не верыў , што гэта ім ўдасца. Пра іх пасьпяховае вяртаньне дамоў мы ўжо паведамлялі ў газэце. Нядаўна яны зрабілі фотавыставу пра сваё падарожжа ў менскай галерэі. Інфармацыю пра падзею даслала нам Марына Яўсейчык.*

Топ-топ, раблю няўпэўненыя крокі па намаляванай на падлозе мапе: ЗША, Мексіка, Гватэмала, Гандурас, Нікарагуа, Коста-Рыка, Панама, Калюмбія, Эквадор, Перу, Бразілія, Балівія, Парагвай, Аргентына, Чылі. У сучаснай мастацкай галерэі "Ў" горада Менска прайшла фотавыстава журналісткі Жэні Манцэвіч, якая пазнаёміла землякоўбеларусаў са сваёй гадавой вандроўкай па розных краінах сьвету. Мэта рызыкоўнай экспедыцыі: паставіць беларускі табурэт на мысе Горн – самай крайняй кропцы Паўднёвай Амерыкі. Гэтую арыгінальную задуму здзейсьнілі Жэня і яе муж Верасень. Павітацца з айчыннымі "рабінзонамі" ў галерэю "Ў" прыйшло шмат народу, невялікая заля нават не змагла зьмясьціць усіх жадаючых. Давялося шчыльненька стаяць і дыхаць камусьці ў плячо. Але то былі сапраўды ўзнёслыя хвіліны, быццам бы чакаеш з'яўлення вядомай зоркі. Прынамсі, так усе і ўспрымалі Жэню і Верасня. Яны прадэманстравалі публіцы свае творчыя здольнасьці: сьпявалі песьні, паказвалі невялікі фільм пра сваю вандроўку. Дзіўлюся Жэнінай цьвёрдасьці: такая худзенькая дзяўчына, але стойкая і ўпартая, як алавянны салдацік. У ёй адчуваюцца загартаванасьць, упэўненасьць. Усім было цікава даведацца, як там, у далёкіх краінах. І ці не страцілі вандроўнікі жаданне вяртацца ў Беларусь. Аказваецца, наадварот, яны больш палюбілі сваю краіну. Верасень сказаў, што хоча жыць толькі на Радзіме, наша зямля самая лепшая. Адзінае, чаго не будзе ім даставаць, дык гэтага цёплага сонца. А ўспамінаў хапае. Яны шчодра падзяліліся імі:

- "Раніцаю ў эквадорскіх джунглях нас разбудзілі дзеці. Са шчырай і непадробнай зацікаўленасьцю яны разгладалі нас праз сетку маскітніка, у якім мы схаваліся на ноч".

- "Для правядзення фестывалю "Feliz Kaliada" мы выбралі балейвійскую вёску Карані-Пампа, ткнуўшы пальцам у мапу. Мясцовыя дзеці не маглі зразумець, што гэта за іншаземцы прыехалі ў гэтую глуш, сьпяваюць песьні, вараць боршч і паказваюць дзіўныя сьпектаклі. Яны называлі нас місіянерамі".

- "Мы збочылі з дарогі ў цёмны завулак. На парозе адной з хатаў сядзеў мужчына сталага веку. Прывіталіся з ім праз плот і патлумачылі, што шукаем начлег. Мужчына пачухаў патыліцу. Раптам з суседняга двара выйшаў чарнаскуры мужчына: шукаеце прытулак? І не дачакаўшыся адказу, ледзь не за руку, пацягнуў нас да сябе. І толькі калі пасадзіў нас на канапу, сказаў: мы сям'я бедная, але з багатым сэрцам". І гэта было сапраўды так. Хутка да нас выйшла яго жонка – індыянка і дзеці. Хлопцы – у бацьку, чорныя; а дзяўчынка – у маму, з доўгімі прамымі чорнымі валасамі і індзейскімі рысамі твару. Да самай ночы гаманілі, сьпявалі песьні і дзівіліся, што ў мове гуаралі, на якой размаўляе мясцовае насельніцтва Парагваю, ёсьць шмат агульных слоў з беларускай мовай. Напрыклад, калі з дрэва падае яблык, яны кажуць "дзякуй". Напэўна, у гэты дзень у нейкім садзе хтосьці старанна трос яблыню. Нашай удзячнасьці не было межаў".



*Жэня Манцэвіч і Верасень ва Ушуаі (Аргентына)*

- "На супрацьлеглым баку дарогі спынілася машына. Жанчына апусціла акно і паклікала нас рукою. Мы загрузілі заплечнікі ў багажнік і селі. Нашая спадарожніца з Эквадора як бы незнарок сказала: "У нас тут вулкан вывяргаецца, хочаце паглядзець?" Канешне, мы хацелі ўбачыць гэтую з'яву прыроды. Ужо здалёк мы пабачылі дым, які валіў з жэрава вулкана. Калі сцямнела, стала бачна, як гара выплёўвае з горла лаву. Тая, пераліваючыся то чырвоным, то чорным, сцякае ўніз і застывае. Мы пад'ехалі да падножжа суседняй з вулканам гары. Гаспадыня хаты – сяброўка нашай новай знаёмай. Яна грэла ў каструлі малако і разлівала па кубках какао, каб сагрэцца, бо наверсе будзе холадна. Мы пачалі ўзбірацца на гару. На вяршыні было зусім цёмна. Неба зацягнула туманам і хмарамі. Вулкана бачна не было, але мы адчувалі: варта толькі працягнуць руку – ён будзе там. Штохвіліны мы бачылі, як нехта магутны раздзімае велічэзнае вогнішча".

- "Патрапіць у Перу з Эквадора, пераправіўшыся па рэчцы сярод непралазных джунгляў, было не меньш дзікай ідэяй, чым самі джунглі. Аднак мы былі ўпартымі. І нават атрымалі дазвол у мясцовым муніцыпалітэце на наведванне ваеннай зоны, дзе і праходзіла мяжа. Мужыкі з вёскі, дзе мусіла пачынацца пераправа, убачыўшы белых турыстаў з заплечнікамі, загнулі цану за пераправу ў 150 даляраў на кожнага. Такіх грошай у нас не было і мы вырашылі распытаць мясцовых. Нам падказалі хлопца Олмедо, які давязе за 30 даляраў. Яго не было дома, бацькі запрасіла нас у хату, пачакаць. Мы раззнаёміліся з усімі і нават пасябравалі. Жанчыны і дзеці з цікаўнасьцю разглядалі прывезеныя з Беларусі фотаздымкі і спрабавалі ўспомніць, як жа называецца гэтая белая штука, а потым радасна ўскрыквалі: "Сьнег!".

"За час падарожжа мы сустрэлі дзесяткі незнаёмых нам відаў раслін, птушак, жывёл і насякомых. Зьдзівіў пабачаны суцэльны кавалак вусеняў, кожны вусень ў ім рухаўся па-асобку, і ў той жа час яны паўзлі ўсе разам адным цэлым".

*Марына Яўсейчык*
*Менск*

# Акцыя ў падтрымку Алеся Бяляцкага ў сталіцы Грузіі – Тбілісі 1 сьнежня 2011







# Ліст з Аўстраліі

**Шаноўныя і паважаныя беларусы ў замежжы і ў Беларусі!**

Падзеі нашага беларускага жыцьця, іначай сказаць, долі і нядолі нашай Бацькаўшчыны ляжаць нам вялікім цяжарам на сэрцы. Усім нам хочацца бачыць нашу Бацькаўшчыну вольнай, незалежнай і дэмакратычнай краінаю ў яе этнаграфічных межах зь яе нацыянальнаю культураю і роднай моваю. Гэткія дасягненьні маюць усе вольныя і цывілізаваныя краіны ў сьвеце. Гэта неразлучны элемэнт кожнай дэмакратычнай дзяржавы.

Аднак, у выпадку нашай Бацькаўшчыны сытуацыя выглядае іначай. Там на вяршыню кіраўніцтва залез нейкі Лукашэнка. Ён даказаў, што вельмі ўмела валодае дубінаю, сарганізаваў ў Менску атрады хлопцаў і пераказаў ім сваю справу ўжываньня дубіны супроць свайго народу.

Тым часам, наш "старэйшы брат" з Масквы робіць выгляд, што ў Беларусі нічога не адбываецца. Грамадзяне расейскія беларускага паходжаньня, вашыя душы павінны адчуваць боль, бо вы ж з беларускага гнязда. Калі так, дык падумайце, за каго галасаваць на вашых прэзыдэнцкіх выбарах.

Праўдаю ёсьць тое, што грамадзянін Лукашэнка з гнязда расейскага КДБ. Дык няхай яны яго і забіраюць сабе, ён у нас нікому не патрэбны.

Беларусь з Расеяю павінны быць у такіх адносінах, як Швэйцарыя з Нямеччынай. Немцы з радасьцю езьдзяць на адпачынак у Швэйцарыю, каб толькі падзівіцца на прыгажосьць швэйцарскіх гораў і падвучыцца швэйцарскаму жаргону нямецкай мовы.

А якая сытуацыя ў нас з моваю? Беларуская мова зусім выкінутая са школаў. У крамах прадаўшчыцы не хочуць абслугоўваць пакупніка, калі ён
зьвяртаецца да іх па-беларуску. Да гэткага стану давёў нас Лукашэнка.

Калі Лукашэнка ўсьлізнуўся ва ўладу ў адноўленай беларускай дзяржаве, ён адразу стаў выконваць ролю не прэзыдэнта, а ліквідатара нашае дарагой нам краіны, якую мы ад веку марылі здабыць і якую нам удалося адрадзіць. Па ўсім відаць, што ён ёсьць чужым. Ён не наш у нашай краіне, ён – Чужынец. Бацькаўшчына наша апынулася пад уладаю чужынца.

Мы паважаем усе нацыянальнасьці, як гэта дыктуюць нам дэмакратычныя законы. Але, у законах існуюць і нормы. Чужынцы не маюць права лупцаваць дубінкамі нашых беларусаў на іх зямлі, так як гэта рабіў Лукашэнка пасьля сфальшаваных ім прэзыдэнцкіх выбараў. Ужо цяпер відаць, што Лукашэнкавы партрэты ў будучыні не будуць вісець у музэях, а наадварот, хлапчукі будуць пісаць ягонае прозьвішча на сьценах грамадзкіх прыбіральняў.

Браты – беларусы!

Маці наша Беларусь патрабуе вашай дапамогі. Асабліва заклікаем беларусаў з Расейскай Фэдэрацыі. Пара абудзіцца!
Вы на ўсіх мітынгах маеце права ўнесьці звароты і петыцыі да вашага ўраду, каб ён паўплываў на беларускую ўладу з тым каб:

- вызваліць усіх палітвязьняў
- не акцэптаваць грамадзяніна Лукашэнку, як прэзыдэнта, як кіраўніка Беларускай дзяржавы, такі падыход прынялі заходнія краіны
- дабіцца праз міжнародны суд афіцыйнага рассьледаваньня фактаў зьнікненьня людзей – Захаранкі, Ганчара, Красоўскага, Завдзкага і шмат іншых, пакуль не ведамых нам прозьвішчаў.

Лукашэнка ёсьць галоўнаю перашкодаю на дарозе да лепшай будучыні нашай Бацькаўшчыны і гэты "завалі – дарога" павінен быць зрынуты ў нябыт.

*Ад Беларускага Цэнтральнага Камітэта ў Аўстраліі*
*старшыня Янка Барысевіч*
*заступнік А. Грыцук*

*26 лістапада 2011*

# Каляндар памятных датаў на сьнежань 2011 году

**1 сьнежня** – 30 гадоў таму, у 1981 годзе, памёр Рыгор Бярозкін, літаратар, крытык, журналіст.

**6 сьнежня** – 85 гадоў таму, у 1926 годзе, РСФСР перадала ў склад БССР Гомельскі і Рэчыцкі паветы.

**7 сьнежня** – 90 гадоў таму, у 1921 годзе, у Заходняй Беларусі ў Радашкавічах было заснавана Таварыства беларускай школы (дзейнічала да 1937 году).

**8 сьнежня** – 20 гадоў таму, у 1991 годзе, у Віскулях былі падпісаныя пагадненьні аб дэнансацыі дамовы аб утварэньні СССР і спынена яго існаваньне.

**9 сьнежня** – 120 гадоў таму, у 1891 годзе, нарадзіўся Максім Багдановіч, паэт, клясык беларкскай літаратуры.

**9 сьнежня** – 30 гадоў таму, у 1981 годзе, у Менску каля опернага тэатра быў устаноўлены помнік Максіму Багдановічу.

**9 сьнежня** – 20 гадоў таму, у 1991 годзе, у Менску у Траецкім прадмесьці адчыніўся Музэй Максіма Багдановіча.

**9 сьнежня** – 20 гадоў таму, у 1991 годзе, плошчы каля Дому ураду ў Менску была нададзена назва Плошчы Незалежнасьці.

**10 сьнежня** – Сусьветны дзень Дэклярацыі правоў чалавека.

**11 сьнежня** – 20 гадоў таму, у 1991 годзе, Вярхоўны Савет РБ зацьвердзіў Палажэньне "Аб Дзяржаўным бел-чырвона-белым сьцягу Рэспублікі Беларусь".

**14 сьнежня** – 105 гадоў таму, у 1906 годзе, у Менску была ўтворана кніжная суполка "Мінчук".

**14 сьнежня** – 100 гадоў таму, у 1911 годзе, нарадзіўся Аляксандр Калодка, грамадзкі дзеяч, публіцыст, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

**15 сьнежня** – 90 гадоў таму, у 1921 годзе, нарадзіўся Сьцяпан Александровіч, літаратуразнаўца, крытык, краязнавец.

**14 сьнежня** – 25 гадоў таму, у 1986 годзе, 28 аўтарытэтных прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі накіравалі адкрыты ліст на імя М. Гарбачова з пратэстам супроць дыскрымінацыі беларускай мовы.

**16 сьнежня** – 60 гадоў таму, у 1951 годзе, у Нью-Ёрку быў створаны Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва.

**17 сьнежня** – 125 гадоў таму, у 1886 годзе, нарадзіўся Мікола Равенскі, кампазітар, фальклярыст, аўтар гімну "Магутны Божа".

**17 сьнежня** – 120 гадоў таму, у 1891 годзе, нарадзіўся Андрэй Цікота, рэлігійны і грамадзка-культурны дзеяч, генерал Ордэна марыянаў.

**21 сьнежня** – 215 гадоў таму, у 1796 годзе, нарадзіўся Тамаш Зан, удзельнік вызваленчага руху, філямат, польскі літаратар.

**21 сьнежня** – 30 гадоў таму, у 1981 годзе, памёр Міхась Забейда-Суміцкі, сьпявак, педагог.

**22 сьнежня** – 10 гадоў таму, у 2001 годзе, памёр Уладзіслаў Чарняўскі, каталіцкі сьвятар, перакладчык Біблії і літургічных тэкстаў на беларускую мову.

**23 сьнежня** – 180 гадоў таму, у 1831 годзе, памерла Эмілія Плятар, удзельніца нацыянальна-вызваленчага руху, фальклярыстка.

**24 сьнежня** – 250 гадоў таму, у 1761 годзе, нарадзіўся Якуб Ясінскі, вайсковы і палітычны дзеяч, паэт, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1794 году.

**25 сьнежня** – Сьвята Божага Нараджэньня (Каляды) паводле Грыгарыянскага календара.

**26 сьнежня** – 120 гадоў таму, у 1891 годзе, нарадзіўся Аляксей Вініцкі, грамадзкі і вайсковы дзеяч, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**27 сьнежня** – 175 гадоў таму, у 1836 годзе, нарадзіўся Валеры Урублеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863-64 г.г.

**27 сьнежня** – 105 гадоў таму, у 1906 годзе, нарадзілася Іна Рытар (Каханоўская), псэўд. Аляксандра Саковіч, пісьменьніца, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**28 сьнежня** – 90 гадоў таму, у 1921 годзе, у Вільні створаны Беларускі музэй імя Івана Луцкевіча.

**30 сьнежня** – 60 гадоў таму, у 1951 годзе, заснавана Згуртаваньне беларускай моладзі ў Амэрыцы, ад 1967 году – Арганізацыя беларуска-амэрыканскай моладзі ў ЗША.

**31 сьнежня** – 35 гадоў таму, у 1976 годзе, у Мэльбурне адбылася Першая сустрэча беларусаў Аўстраліі, дзе была заснавана Фэдэральная Рада беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі.

**31 сьнежня** – 20 гадоў таму, у 1991 годзе, памёр Юры Астроўскі, акадэмік, грамадзкі дзеяч, жыў у Гародні.

## Сьв. пам. Валеры Раеўскі

*(20 чэрвеня 1939 – 9 лістапада 2011)*



Памёр Валеры Раеўскі – рэжысёр Купалаўскага тэатру, дзе працаваў ад 1967 году. Многія з нас не памятаюць нікога іншага, так трывала зраслося імя рэжысёра з нашым вядучым нацыянальным тэатрам. З ім мы перажылі савецкі застой і лепшыя часіны новага беларускага Адраджэньня. Тэатр начале з Раеўскім ішоў у авангардзе. Там былі пастаўленыя спектаклі, якія абуджалі нацыянальную свядомасьць, прымушалі задумацца пра лёс народу і ягонай культуры.

Валеры Раеўскі – знакавая асоба ў сучаснай гісторыі беларускага тэатра. Ён паставіў больш за 35 спэктакляў па беларускай і замежнай драматургіі.

У 1976 годзе Раеўскаму было прысвоена ганаровае званьне “Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР”, а ў 1998 годзе званьне “Народны артыст Рэспублікі Беларусь”. У 2004 годзе ўзнагароджаны Ордэнам Францыска Скарыны.

Валеры Раеўскі зьўяляўся прафэсарам Беларускай акадэміі мастацтваў.

## Сьв. пам. Элеанора Вецер

*(10 сьнежня 1939 – 14 лістапада 2011)*

18 лістапада ня стала Элеаноры Вецер. Мастацтвазнаўца, адна са стваральнікаў Музэя старажытнай беларускай культуры, адна з ініцыятарак і аўтараў сямітамовага Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, актыўная ўдзельніца руху за нацыянальнае адраджэньне пакінула гэты сьвет пасьля цяжкай і працяглай хваробы на васьмідзясятым годзе жыцьця.



*Элеанора Вецер у творчай экспедыцыі, Аршанскі раён, кастрычнік 1984 году*

## Сьв. пам. Анатоль Белы

*(10 сьнежня 1939 – 14 лістапада 2011)*



**Анатоль Белы - вядомы грамадзкі дзеяч, навуковец і калекцыянэр, заснавальнік Менскага гарадзкога культурна-асьветніцкага клюбу "Спадчына" і Старадароскага музэю выяўленчага мастацтва.**

Нарадзіўся ў 1939 годзе ў Старых Дарогах (Менская вобласьць). У 1967 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны унівэрсытэт. Сябра Саюзу мастакоў Беларусі, Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, быў удзельнікам ўстаноўчых зьездаў Партыі БНФ, грамадзкага аб'яднаньня "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".

Сабраў вялікую калекцыю твораў жывапісу, графікі, мэдальернага і дэкаратыўнага мастацтва (каля трох тысяч адзінак). На аснове сваёй калекцыі ў 1990 годзе заснаваў, а ў 1999-м адкрыў у сваёй сядзібе ў Старых Дарогах прыватны музэй выяўленчага мастацтва. Сёньня ў музэі чатыры будынкі і восем залаў, у якіх экспануецца каля 1.700 твораў.

За сваю дзейнасьць на ніве нацыянальнага адраджэньня і захаваньня нацыянальнай спадчыны Анатоль Белы быў узнагароджаны ордэнам Кірылы Тураўскага, дзьвюма граматамі мітрапаліта Менскага і Слуцкага, а таксама мэдалём імя Яна Масарыка Міністэрства замежных спраў Чэхіі.

Дзякуючы намаганьням Белага ў дворыку БДУ устаноўлены шэраг помнікаў выбітным дзеячам нацыянальнай культуры - Эўфрасіньні Полацкай, Кірылу Тураўскаму, Міколу Гусоўскаму, Францыску Скарыну, Сымону Буднаму і Васілю Цяпінскаму.

Анатоль Белы быў адных з тых першапраходцаў, хто распачаў актыўныя кантакты і супрацоўніцтва з беларускай дыяспараю.

Выказваем шчырыя спадзяваньні дачцы Сьвятлане з Кліўлянду і ўсёй сям'і Анатоля Белага



*Анатоль Белы каля свайго музэю ў Старых Дарогах*

## Сьв. пам. Тамара Аўдзей

*(27.08.1929 – 18.11.2011)*



Ціха, непрыкметна, далекавата ад беларускай грамады, у горадзе Мінэапаліс, штат Мінэсота, адыйшла ў іншы сьвет в. п. Тамара Аўдзей, дзявочае прозьвішча Карповіч, адна з актыўных беларусак-эмігрантаў паваеннае хвалі 1944-1945 гадоў.

Тамара, народжаная ў Клецку, на эміграцыю выехала разам з бацькамі. Перакідаліся на розных працах у нацыстаўскай Нямеччыне, а па заканчэньні вайны, ідучы з ўсходу на захад, уцякаючы ад Саветаў, апынуліся ў Рэгенсбургу, дзе пачыналася беларускае паваеннае эміграцыйнае жыцьцё. Будучы знаёмай з маладзёвым рухам, Саюзам Беларускай Моладзі ў Клецку, в. п. Тамара адразу ўлучылася ў групу моладзі, арганізатараў беларускага скаўтынгу. Яна наведвала скаўцкія курсы-лекцыі арганізаваныя УНРРА для ўцекачоў, была адной з арганізатараў скаўцкае сьвятліцы, а крыху пазьней -- і дзявочай скаўцкай дзейнасьці. Дапамагала таксама Тамара ў выданьні першага скаўцкага часапісу ў Рэгенсбургу “Зважай”.

Тамара Карповіч стала таксам адной зь першых вучаніц гімназіі імя Янкі Купалы, якую закончыла ў 1949 годзе. Брала яшчэ вельмі актыўны ўдзел у наладжаньні “Купальля” ў Рэгенсбургу, у танцавальных гуртках ды гімназіяльным драматычным гуртку ў Міхэльсдорфе. Як кіраўнічка скаўтак, езьдзіла на міжнародныя спаборніцтвы ў Рэгенсбург, Міттэнвальд, Остэргофэн, Касэль.

У ЗША сям'я Карповічаў выехала зь лягеру Бакнанг у 1950 годзе й адразу ж па прыбыцьцці ў Амэрыку далучылася да стварэньня парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры, штат Нью Джэрзі, хоць жылі й працавалі Карповічы ў розных месцах: у гарадах Пасэйк, а пасьля Ірўінгтон.

У ЗША Тамара закончыла Ратгерскі штатны ўнівэрсытэт у Нью Брансўік, а таксама Ньюёркскі ўнівэрсытэт па спэцыяльнасьці гуманістыка й мовы. Дыплём бібліятэкара Тамара атрымала зь Індыянскага ўнівэрсытэту ў гор. Блюмігтан, штат Індыяна. Працавала ў розных акадэмічных бібліятэках. А калі была на пасадзе галоўнага бібліятэкара па набыцьці кніжных фондаў ва ўнівэрсытэце Кўіна ў штаце Нью Джэрзі, Тамара ўважліва сачыла за беларускімі калекцыямі. Яна належала да Таварыства Бібіятэкараў Амэрыкі, часта брала ўдзел у гадавых зьездах гэтае арганізацыі.

У пачатку 1950-х гадоў Тамара Карповіч выйшла замуж за Івана Аўдзея, актыўнага беларускага грамадзкага й палітычнага дзеча. Пасьля сьмерці мужа яна пасялілася непадалёк ад сям'і дочкі Аляксандры (Шуры) Мюлер у штаце Мінэсота.

Пахаваная нябожчыца на могільніку парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры, дзе спачываюць ейныя бацькі й муж.

Успамінаючы нашу дзейную й добрую сяброўку-супрацоўніцу, выказваю ад сябе й многіх сяброў самае шчырае спачуваньне сям'і Тамары Аўдзей: дачцы Шуры й зяцю Паўлу Мюлерам ды ўнучцы Кэйты Мюлер.

*Вітаўт Кіпель*

# Шаноўныя калегі!

Часопіс **"Роднае слова"** – адзінае на Беларусі беларускамоўнае штомесячнае выданне, якое комплексна прэзентуе найлепшыя даследаванні навукоўцаў-беларусістаў у галіне філялёгіі, а таксама педагогікі, мастацтвазнаўства і культуралёгіі. Па гэтых спецыяльнасцях часопіс уключаны ў пералік Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Рэспублікі Беларусь. Сярод нашых аўтараў вядомыя даследчыкі і маладыя навукоўцы з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Балгарыі, Казахстана, а таксама Кітая.

Навукова-метадычны часопіс "Роднае слова" – своеасаблівая філялягічна-культуралягічная энцыклапедыя. Часопісныя матэрыялы па мове і літаратуры, музыцы і выяўленчым мастацтве, архітэктуры, кіно і тэатры арганічна спалучаюцца з метадычнымі распрацоўкамі.

На дадзены момант часопіс складаецца з пяці раздзелаў: "Літаратура і час", "Мовы рысы непаўторныя", "Методыка і вопыт", "Калі закончыўся ўрок", "Нацыянальная і сусветная культура", якія арганічна суадносяцца паміж сабой і дазваляюць змяшчаць разнастайныя матэрыялы, накіраваныя на захаванне традыцыйных каштоўнасцей, зберажэнне нацыянальнай спадчыны.

З 2012 г. часопіс "Роднае слова" можна выпісаць за мяжой. Інфармацыя змешчана ў наступных каталогах:
ОАО "АРЗИ" (http://www.akc.ru/goods/5058160417/)

ООО "Интерпочта-2003", ООО "Информнаука",
ЗАО "MK-Periodica", ГП "Пресса" (Украина http://www.presa.ua/katalog/ru1/alpha.php?page=3&type_show=1&finger=%D0),
ГП "Posta Moldovei" (Малдова),
АО "Lietuvos Pastas" (Літва),
"Kubon&Sagner" (Германія http://www.kubon-sagner.de/opac.html?record=Z74823).

Чытачы з краін, каталогі якіх не названы вышэй, могуць падпісацца праз электронны каталог "MK-Periodica" (інфармацыя пра часопіс "Роднае слова" размешчана па наступнай спасылцы: *http://www.periodicals.ru/export/good.phtml?id=370303*

Адрас: пр-т Пераможцаў, 47, к.1, п.2, 220035, г. Мінск.
Тэл. 203 07 40, 203 34 79, 203 35 17, факс 203 07 40.
rodnaje_slova@tut.by
Р/р №3015702170012, аддз. №527 ААТ, "Белінвестбанк", код 739, г. Мінск

# Купляйце беларускае, купляйце рушнікі і паясы!

*Такую прапанову мы атрымалі ад нашай зямлячкі з Даніі:*

Дзень добры.
Мяне клічуць Тацьцяна. Я жыву ў Даніі, але я родам з Менску. Я вышываю нацыянальныя касьцюмы і тку нацыянальныя паясы (раблю навуковую рэканструкцыю аўтэнтычных строяў і паясоў). Вышываю рушнікі. Паглядзець на маю працу можна на маім сайце: www.slavianka.dk

Разьдзел - Belorusian National Costume

Калі вы зацікаўлены ў маёй працы і жадаеце штосьці набыць, ці замовіць, ці проста падзяліцца думкамі і вопытам, пішыце мне на мой e-mail - shop@slavianka.dk, альбо тэлефануйце па тэлефоне (Таня Расмусэн, тэл. 45 28 31 98 75).

*З павагаю Таня Расмусэн*

# Віншаваньне

**Віншуем Тамару і Сяргея Капыткаў з нараджэньнем дачкі Яны!** Жадаем новай беларусачцы шчасьлівага і доўгага жыцьцёвага шляху, а яе бацькам шмат радасьці ад новага сямейнага папаўненьня.

# Разам сустрэнем Новы 2012 год!

**Бруклінскі аддзел БАЗА запрашае на традыцыйную Сустрэчу Новага году.**
**Імпрэза пачнецца а 10:00 гадзіне ўвечары 31 сьнежня ў грамадзкай залі на 401 Alantic Ave (Brooklyn)**

**Кошт замоўленага раней квітка – 60 $, пры ўваходзе – 70 $**
**Дзеці да 12 гадоў – бясплатна, да 18 гадоў – палова кошту**

**Чэкі можна дасылаць на адрас:**
**Belarusan-American Associashin**
**Brooklyn Chapter (Novy Hod)**
**401Atlantic Ave Brooklyn NY 11217**

**Таксама квіткі можна аплаціць наяўнымі грашыма кожную нядзелю ў грамадзкай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на 401 Alantic Ave**
**(зьвяртацца да Тані Красоўскай)**


**FREE ENGLISH CLASSES FOR ADULTS!**
**Restaurant, Construction and all Adult Workers Learn English for Health and Safety on your Job!**

LOW LEVEL CLASSES; Morning, Afternoon & Evening; 6 hours/week; Starting in January 2012 in Downtown Brooklyn and Manhattan

**REGISTRATIONS (Stay 3 hours, no children please):**

1) at Adult Learning Center, 25 Chapel St, 4th Fl, Brooklyn, NY 11201

FREE

| | |
|---|---|
| Monday, December 12, 2011 | 1:00PM |
| Tuesday, December 13 | 10:00AM |
| Monday, December 19 | 1:00PM |
| Tuesday, December 20 | 10:00AM |

2) at 231 West 14th St, 2nd Fl, Manhattan, NY 10011

FREE

| | |
|---|---|
| Monday, January 9, 2012 | 11:00AM |
| Monday, January 9 | 5:30PM |
| Wednesday, January 11 | 11:00AM |
| Wednesday, January 11 | 5:30PM |

**FOR INFORMATION, CALL: (718) 552-1140, ask for ROBIN OR come to 25 Chapel Street, Brooklyn or to any registration**

Classes provided by New York City College of Technology/CUNY


## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

Алена Сенька - $100
Міхась Баяроўскі - $50
Вольга Жук - $50
Аляксей Мінко - $50
Нікалас Сняжко - $100
Пятро Мурзёнак - $50
Яўген Груша - $100
Міхась Тарашкевіч - $50
Анна Жызнеўская - $60

**Вялікі дзякуй усім ахвярадаўцам!**


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Андрусь Падлескі – адказны за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыялямі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
*Hazeta Bielarus*
*166-34 Gothic Drive*
*Jamaica, NY 11432*
*USA*

**Грашовыя чэкі выпісываць на імя :** *BIELARUS newspaper* дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.

**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*